# ПРАЦАЎНІК АСЬВЕТЫ

**Дадатак да газэты „САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ“**

№ 15 | 9 сьнежня 1928 г. | № 15

## ЗЬМЕСТ.



# Бліжэй да жыцьця.

## УВЯЗКА ГРАМАДЗКА-КАРЫСНАЙ ПРАЦЫ ШКОЛЫ З ЖЫЦЬЦЁМ САМОЙ ШКОЛЫ І НАСЕЛЬНІЦТВА.

Амаль што ў кожным нумары нашага дадатку асьвятляюцца тыя ці іншыя пытаньні грамадзка-карыснай працы школы. Але на мой погляд, мала зьвяртаецца ўвагі на тое, што зроблена ўжо ў даным напрамку школамі БССР, ці хоць-бы асобных акруг, як зроблена, мэтады і формы гэтай працы і ўвязка са штодзённым жыцьцём школы і насельніцтва, а таксама адносіны да гэтай працы самога насельніцтва.

Ня так даўно т. Аніхоўскі падрабязна вастанаўліваўся на дасягненьнях аднаго настаўніка, якому ўдалося вельмі значна павысіць ураджайнасьць школьнага вучастку. Але, на вялікі жаль, зусім нічога ня было сказана аб тым, які ўдзел у праведзенай працы прымалі вучні, сувязь праведзенага з выхаваўчай і вучэбнай часткай школы і ўдзел бацькоў вучняў.

Хутка будзем сьвяткаваць 10-цігодзьдзе агалашэньня БССР. К дню такога сьвята было-б вельмі карысным правесьці вучот вынікаў грамадзка-карыснай працы школ, бо толькі такі вучот можа даць належны напрамак для далейшага яе разьвіцьця.

Пры выездах у вясковыя школы дзеля ўдзелу ў пасяджэньнях пэдрад па с.-с. раней і сёлета часта прыходзіцца вастанаўлівацца на пытаньні грамадзка-карыснай працы школы, і прыходзіцца сьцьвердзіць, што гэта самы хваробны бок школьнай працы. Амаль што ўсе заяўляюць: «упрыгожваем хату-чытальню, калі яна ёсьць, трымаем сувязь з с.-с.“. І ўсё. Далей пытаць няма чаго, бо ў штодзённым сваім жыцьці школа цікавіцца толькі вучобай. Яшчэ калі будынак школы знаходзіцца ў самай вёсцы, дык сувязь яе з насельніцтвам бліжэй, і дрэнна справа там, дзе будынак за вёскай.

Грамадзка-карысную працу школы магчыма паставіць на належную вышыню ў тым выпадку, калі школа добра зразумела неабходнасьць вывучэньня акаляючага жыцьця, эканомікі, быту, культуры свайго раёну, бо грамадзка-карысная праца школы павінна ставіць сваёй мэтай дапамогу насельніцтву ў падняцьці вытворчасьці яго працы, у палепшаньні быту і пашырэньні культурнасьці. А з вывучэньнем сваіх школьных раёнаў справа па школах абстаіць вельмі дрэнна. Настаўніцтва ў сваёй працы зусім ня ўжывае экскурсій, у школьнай практыцы не карыстаецца павагай мясцовы матар'ял. Праходзячы той ці іншы комплекс карыстаюцца тым, што дае падручнік, бо гэта лягчэй; зусім не скарыстоўваецца газэтны матар'ял нават і ў сямігодках. Адны з настаўнікаў ня ведаюць, як з двумя ці трымя групамі займацца, ды яшчэ экскурсіі праводзіць, другія над гэтым пытаньнем зусім ня думаюць, і толькі нязначная частка праводзіць экскурсіі і скарыстоўвае набыты матар'ял пры распрацоўках.

Вядома, калі школа ня ведае ўмоў жыцьця вёскі, дык ня прыходзіцца казаць і аб дапамозе з боку яе насельніцтву. У той-жа час кожны комплекс, кожная тэма даюць повад падрабязна знаёміцца з тым ці іншым бокам жыцьця школьнага раёну. Комплекс «ахова здароўя» дае магчымасьць вывучыць санітарна-гігіенічны стан вёскі, правесьці шэраг гутарак з бацькамі на тэму аб палепшаньні ўмоў жыцьця вучняў, аб значэньні чыстаты, рамонт калодзежаў, значэньне лазьні і інш. Пры распрацоўцы комплексу «падрыхтоўка да зімы» таксама вучні павінны прывесьці ў належны парадак школу, дапамагчы дома зрабіць тое-ж самае. Настаўнік вядзе гутарку аб падрыхтоўцы хлявоў для жывёлы, устройства фортак у хатах на зіму. Вясной скарыстаньне вучняў на школьным вучаску, градкі вучняў дома, належна апрацаваныя і засеяныя, каб паказаць бацьком, што пры сяўбе галоўную ролю грае ня колькасьць насеньня, а якасьць і пасадка, а таксама далейшы дагляд.

Правядзеньне розных сталых кампаній, рэвалюцыйных сьвят павінна зьвярнуць увагу школ, і не малую, бо ў большасьці ўсё гэта носіць чыста фармальны выгляд. Тут таксама неабходна дабіцца поўнай увязкі са школьным жыцьцём.

Такім чынам, яшчэ раз неабходна падкрэсьліць патрэбнасьць правядзеньня вучоту грамадзка-карыснай працы школ, узмацненьня высьвятленьня пастаўленага пытаньня ў друку, большая зацікаўленасьць пытаньнем з боку масы настаўніцтва і раймэтбюро, а таксама большая зацікаўленасьць школ мясцовым матар'ялам. **Настаўнік.**

# Пра пастаноўку пісаньня ў школах І-га канцэнтру*).

Вывучэньне пытаньняў пісаньня можна раскласьці на тры часткі:

1) графіка пісаньня, 2) артаграфія і 3) стыль.

Але пры навучаньні пісаньню частак гэтых не павінна быць, а павінны быць тры бакі аднаго цэлага—пісаньня, якія патрэбна разьвіваць раўналежна.

## ГРАФІКА ПІСАНЬНЯ.

Шмат мэтадыстаў у сучаснай пэдагагічнай літаратуры з захапленьнем спрачаюцца аб лінейках у вучнёўскіх сшытках і наогул аб графіцы пісаньня.

Можна згадзіцца з тым, што ў дарэвалюцыйныя часы ў сшытках было вельмі многа рысак і лінеек, але ніяк нельга згадзіцца з тым, што ўсе лінейкі шкодны для пасьпяховасьці навучаньня пісаньню.

Па лінейках цяжка пісаць, але вучні на першых кроках, калі нават маюць сшыткі з лінейкамі, па лінейках ня пішуць. Яны стараюцца пісаць, але гэта ў іх ня так добра выходзіць.

Які-ж з гэтага можна зрабіць вывад? Адкінуць лінейку?—Ні ў якім разе. На першых кроках вучань слаба спраўляецца з пісаньнем па лінейках, але гэта толькі на першых кроках; далей вучань піша ўжо па лінейках.

Якія-ж дадатныя бакі гэтых лінеек?—А вось якія: роўнае пісаньне, памер літар прыемны для вока, выразнасьць напісанага і мастацкая пекната.

Калі не каліграфічнае дык, у кожным разе, выразнае пісаньне нам патрэбна на кожным кроку.

Бяз выразнага пісаньня ня можа быць і артаграфічна-правільнага пісаньня.

Цяпер вельмі важна ўстанавіць, што трэба для таго, каб графіка пісаньня была пастаўлена здавальняюча.

Галоўная ўмова для добрага графічнага пісаньня—гэта выстарчальныя пісьмовыя прылады, якімі школа, на вялікі жаль, пакуль што незабясьпечана.

Сшыткі для пісаньня павінны быць зроблены з добрай паперы і мець сябе прамакашкі. Разграфка іх: дзьве лінейкі—шырэйшыя і вузейшыя і клеткі. Пажадана, каб былі і палі. Чарнільніцы, з якіх ня выліваецца атрамант. Асадкі сярэдняй таўшчыні і вагі.

Шрыфт лепей практыкаваць просты.

Матар'ял для пісаньня павінен быць росты дзеля таго, што толькі тая праца будзе рабіцца акуратна, а гэта знача і графічна,—якую вучань добра зразумеў.

Гігіенічны і санітарны бок, як у школе, так і дома, вельмі ўплываюць на графіку пісаньня.

Графічнасьць павінна прасякаць усе пісьмовыя працы. У нас-жа часта графіка пісаньня мае ўстаноўку толькі ў спэцыяльных працах ды ў працах па роднай мове. Асабліва мала ўвагі зьвяртаюць на графіку пісьмовых прац па матэматыцы. Сшыткі па матэматыцы вельмі часта нагадваюць нейкія старажытныя іерогліфы, даступныя разуменьню толькі пасьвечанага.

## ПРАВАПІС.

Калі ў пытаньнях графікі пісаньня можна спрачацца і меркаваць, ці патрэбна гэта графіка ці не, дык у пытаньнях правапісу гэтых спрэчак ня можа быць.

Без артаграфічна-правільнага пісаньня ня можа быць і добра зразумелага пісаньня. Але навучаньне правапісу вельмі складанае і мае шмат мэтадаў і шмат пасьлядоўцаў таго ці іншага мэтаду.

Вельмі важна ўстанавіць віды артаграфічных прац, адпавядаючых умовам нашай школы.

На першых кроках праца па правапісу ў школе павінна пачынацца і канчацца сьпісваньнем з пісьмовага, выяўна напісанага ці надрукаванага тэксту. Маляваньне і чытаньне плякатаў і лёзунгаў—вельмі карысны спосаб набыцьця правапісных ведаў, бо буйна і адносна мастацкі намаляваны тэкст добра ўрэзваецца ў зрокавай памяці і замацоўваецца на доўгі час, або і назаўсёды.

Далей праца па правапісу (2-гі год) значна ўскладняецца водлуг тых ці іншых правілаў (праз нагляданьні над мовай) і пісаньнем адпаведных практыкаваньняў. На другім годзе навучаньня сьпісваньне разбаўляецца значнай дозай іншых пісьмовых прац, напрыклад: запіс са слоў настаўніка, складаньне сказаў, запісваньне цяжкіх з правапісальнага боку слоў і дыктанты.

Дыктанты выклікаюць значныя спрэчкі мэтадыстаў. Многія зусім адкідваюць дыктанты, але гэта, мне мысьліцца, ня зусім мэтазгодна.

Харэвіч у сваім артыкуле «Найбольш жыцьцёвая форма пісьма» [1]) між іншым кажа: «У жыцьці мы мала пішам са слоў другіх, і пераважная наша форма—самастойнае ціхае пісьмо». Але, калі мы мала пішам са слоў другіх, дык яшчэ менш мы сьпісваем; аднак-жа сьпісваньне ў нас карыстаецца вялікай пашанай дзякуючы таму, што яно памагае зрокаваму ўспрыяцьцю правапісу. Слух-жа, шмат калі ў правапісе нас падманьвае, але-ж дыктоўкі слухавыя, з падчыркваньнем нявыразных месц, можна практыкаваць.

Вельмі важнае значэньне для навучаньня правапісу набудуць артаграфічныя слоўнікі, якія вучні павінны складаць самі. У артаграфічныя слоўнікі трэба заносіць ня толькі паасобныя словы, але і цэлыя сказы, дапамагаючыя высьвятленьню таго ці іншага правапісальнага правіла.

## СТЫЛЬ.

Стылістычны бок пісаньня можа быць здавальняючым толькі ў тым выпадку, калі будзе адпаведная колькасьць стылістычных прац. Гэтыя працы павінны пачынацца з 2-га году навучаньня. Зьмест іх наступны: складаньне сказаў на розныя пытаньні, калектыўныя запісы, складаньне лёзунгаў і плякатаў.

Больш цяжкія працы—для 3 і 4 групы: працы, падагульваючыя паасобныя тэмы і цэлыя комплексы праграмы, анкеты і зьвесткі рознага зьместу, афіцыйныя паперы і мастацкія ўкладаньні на тэмы літаратуры і прыроды.

Наогул трэба сказаць, што для выпрацоўкі стылю трэба даваць як мага больш прац, дзе-б вучань мог выкладаць свае думкі і веды самастойна.

Цяпер трэба сказаць некалькі слоў пра ацэнку і вывучэньне пасьпяховасьці ў пісаньні.

Трэба рабіць кантрольныя работы, каб бачыць—наколькі наш мэтад навучаньня пісаньню апраўдаў сябе, як жыцьцёва тая ці іншая пісьмовая праца і г. д.

Вынікі кантрольных прац павінны запісвацца і сыстэматызавацца. Гэта праца паможа нам знайсьці пэўны крытэрый і ўстанавіць пасьпяховасьць нашых вучняў у пісаньні, а таксама паможа ўстанавіць тыя ці іншыя стандарты, тыя ці іншыя мінімумы і максімумы школьнай пасьпяховасьці.

Яшчэ некалькі слоў аб выпраўленьні пісьмовых прац.

Але мала паправіць памылку, трэба яе яшчэ і вытлумачыць вучню. Перш, чым тлумачыць памылку, настаўнік павінен разьбіць памылкі на групы па тых правілах пісаньня, на якія памылкі зроблены, і на гэтых правілах будаваць лекцыю тлумачэньня памылак.

**Т. Кучынскі.**

*Бягомльскі р., Мен. акр.*

*) Друкуецца ў парадку абмеркаваньня.

1) Асьвета № 8. 1927—Менск.

# „Я ваш друг і тварыш“.

Закахаўся настаўнік Юравіцкай сямігодкі (на Полаччыне) Дарафееў у маладую настаўніцу тэй-жа сямігодкі Ш. З кім гэтага ня бывае? Ну, ясна, чалавек культурны з падыходам: «Я ваш друг і таварыш» і г. д. А калі гэты мэтад не дапамог, дык узяў „цьвёрдую лінію“—кахаю, ды нікакіх.

Як там далей было,—ня ведаю, але справа Дарафеева ня выгарэла—атрымаў ён адпор і пашоў шукаць па сьвету «где оскорбленному есть чувству уголок», каб укальнуць і памсьціць неацанійшай яго пачуцьцяў.

Пачаў ён на пасяджэньнях пэдрады ганіць працу настаўніцы Ш.: «Ваша праца ні к чорту ня варта, сярод вашых вучняў не разьвіта пачуцьцё калектывізму, і вы на гэта не зьвяртаеце ўвагі—я сам бачыў, як адзін вучань еў яблык, другі-ж папрасіў у яго адкусіць кавалак, дык той ня даў».

Ня было праходу няшчаснай абваражыцельніцы Дарафееўскага сэрца т. Ш.

Заступілася за яе старэйшая настаўніца т. Нікіфарава; калі грубыя выхадкі Дарафеева пачалі выходзіць за межы, дык Нікіфарава па-таварыску адчытала яго.

Ня мог Дарафееў выцерпець умяшацельства ў свае сардэчныя справы,—разгарэлася ў нашага гэроя кроў. Застаўшыся на час адлучкі загадчыка школы намесьнікам, ён звальняе Нікіфараву з дадатковай яе працы—дзелавода школы і прымае на гэту пасаду свайго прыяцеля Даўгяла. Калі-ж аб гэткай яго чыннасьці ў газ. «Сав. Беларусь» (№ 69 (2257) ад 22-Ш—28 г.) была зьмешчана заметка «Што перашкаджае культурнаму будаўніцтву», наш гэрой расьсьвірапеў—«ўсур'ёз і надоўга», распачаў, разам са сваім прыяцелем Даўгялам, кампанію супроць Нікіфаравай.

Па-першае, у паштовым агенцтве Дарафееў зрабіў скандал і пагражаў мужу Нікіфаравай (апошні там працуе) зволіць яго з пасады. На другі дзень у школе з вучнямі правёў гутарку наконт газэтнай заметкі, прычым усякімі спосабамі чарніў перад вучнямі т. Нікіфараву. Карыстаючыся сваім аўтарытэтам, як настаўніка і камсамольца, распусьціў сярод насельніцтва паклёп, што т. Нікіфарава—контр-рэвалюцыянэрка і такую-ж думку, карыстаючыся тым-жа аўтарытэтам, укараніў і сярод юравіцкіх камсамольцаў.

За т. Нікіфараву заступілася пэдрада, якая запрапанавала спыніць нападкі на т. Нікіфараву.

Да канца навучальнага году ўсё было спакойна.

Але ціха бывае перад бурай.

Зацях наш гэрой Дарафееў, каб з большай сілай напасьці на т. Нікіфараву. Улетку, у часе ўкамплектаваньня школы, пасыпаўся розны «матар'-ял» супроць Нікіфіравай. Абвінавачвалі яе ў тым, што яна благая грамадзкая працаўніца, залічылі яе нават у лягер контр-рэвалюцыі і г. д. І хоць увесь гэты «матар'ял» быў падбіты ветрам, усё-ж настаўніца Нікіфарава была зьнята з працы, бо райінспэктар Шкіндзер—рука Дарафеева.

Нікіфарава ніяк не магла згадзіцца са сваім звальненьнем тым больш, што сам Шкіндзер заўсёды хваліў яе і 10-VI—28 г. нават даў ёй спраўку, што: **...Никифорова работает в Полоцком районе с 1919 года и до настоящего времени. Все время своей работы, свои обязанности выполняла аккуратно і добросовестно».** А акруговы інспэктарыят 2-УШ—27 г. за № 4738 сьведчыў, што

«...т. Никифорова работала в Полоцком округе с 1917 года в должности учительницы 2-х и 3-х комплектовых школ, а также 9-ти летке, и 7-ми летки. За все время своей работы выявила себя как преподавательница и как общественная работница с самой лучшей стороны. С трудовой советской школой как теоретически, так и практически хорошо знакома. К работе школьной и внешкольной т. Никифорова всегда относилась добросовестно. Занятия в школе вела умело, с большими практическими достижениями. В последнее время состояла членом районной меткомисии и в этой работе также проявила себя как опытный педагог. Может с большим успехом работать в школах 7-ми и 9-тилетках, как в первом, так и во втором концентре».

Нікіфарава пачала шукаць працы і падала скаргу на Шкіндзера і Дарафеева.

Толькі ў лістападзе месяцы г. г. Бюро Нагляду пры полацкай інспэкцыі разгледзіла справу Нікіфаравай і пастанавіла **аднавіць яе на працы настаўніцы ў Юравіцкай сямігодцы.**

Але Шкіндзера голымі рукамі ня возьмеш. „Чорт іх бяры,—думае Шкіндзер,—хай яна і будзе настаўніцай, але ў Юравіцкую сямігодку ня пушчу“. Выносіць ён пастанову Бюро Нагляду на пасяджэньне прэзыдыуму РВК (я, мол, ні прычым), на якім, пасьля яўна ложнай інфармацыі Шкіндзера аб месцы знаходжаньня Юравіцкай сямігодкі, выносяць, відаць, ім зрэдагаваную мудрую пастанову: **«На падставе таго, што настаўніца Нікіфарава зьяўлялася настаўніцай 1-га канцэнтру 7-мігодкі ў с. Юравічах, а ў 1928-29 навучальным годзе 2-гі канцэнтр 7-мігодкі пераведзен у м. Казімірава, а 1-шы канцэнтр застаўся на месцы ў с. Юравічах,—т. Нікіфараву пакінуць настаўніцай 1-га канцэнтру ў с. Юравічах».**

На самай-жа справе ў Казімірава перанесен ня толькі другі канцэнтр, а поўнасьцю ўся сямігодка, разам са ўсім пэдагагічным і тэхнічным пэрсаналам і са ўсім інвэнтаром.

Адным словам, т. Нікіфарава яшчэ і сёньня не працуе. А самадур Шкіндзер, разам з Дарафеевым, пацяшаюцца.

**В—ж.**

*Полацак.*

# Дакуль гэта будзе?

(Халопеніцкі раён, Меншчына).

З 1 кастрычніка 1925 г. я працую настаўнікам у АДАМАЎСКАЙ БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКАЙ ШКОЛЕ, ЗАМОШСКАГА СЕЛЬСАВЕТУ. З першага дня маей працы ў школе ў мяне з сельсаветам паўнейшы разлад. Чым гэта тлумачыцца, я сабе ўявіць добра не магу. Можа таму, што я напісаў некалькі карэспандэнцый аб п'янстве старшыні і сакратара сельсавету, аб тым, што сельсавет абараняе кулакоў і г. д. Я таксама ўзьнімаў пытаньне перад былым Барысаўскім акруговым камітэтам КП(б)Б аб няправільным правядзеньні перавыбараў сельсавету і шмат чаго іншага. Вось, ма'быць, тыя прычыны, якія мяне ў вачох сельсавету зрабілі самым злейшым ворагам.

Старшыня і сакратар сельсавету да мяне ўвесь час адносяцца надта варожа. Сельсавет рознымі спосабамі стараўся падарваць мой аўтарытэт сярод сялянства, але больш рашуча дзейнічаць неяк крыху баяўся.

Ня так даўно, дзеля лепшай падрыхтоўкі да перавыбараў сельсавету, прыяжджаў ад райкому КП(б)Б тав. Голубаў. Старшыня і сакратар сельсавету зазываюць яго ў асобную каморку і пад сакрэтам у паўголаса яму кажуць: «Ведаеш што? Наст. Адамаўскай школы, Гараўскі, вёў актыўную агітацыю сярод насельніцтва супроць падрыхтоўкі да сьвята 11-й гадавіны Кастрычнікавай рэвалюцыі і наогул ён палітычна «неблагонадежный», за ім маецца шмат чаго цёмнага, яго трэба пазбавіць выбарчых правоў».

Прашу хутчэйшага ўмяшацельства ў гэту справу пракуратуры, каб высьветліць гэту справу.

В. І. ГАРАЎСКІ.

# Аб стварэньні беларускай дзіцячай кніжкі.

Хто блізка стаіць да жыцьця школы, той ведае, які вялікі попыт сярод вучнёўства на дзіцячую кніжку.

Пры нашых школах, нават па гарадох (няма чаго казаць пра школу вясковую) няма колькі-небудзь здавальняючай бібліятэкі, якая-б адказвала запатрабаваньням сучаснае школы. У некаторых больш буйных школах-сямігодках (былых гімназіях, вышэйшых пачатковых школах) ёсьць сякія-такія расейскія кніжкі—рэшткі ранейшых бібліятэк. Але гэтыя кніжкі, у большасьці чужыя, непатрэбныя, бескарысныя, калі ня шкодныя,—даюцца дзецям чытаць, каб хоць трохі задаволіць напор, патрэбу вучня ў кніжцы. Ї іх дзеці чытаюць і перачытываюць. У большасьці-ж школ няма ніякае бібліятэкі, няма ніякіх падсобных кніжак, кніжак для чытаньня.

Пры выкананьні падрастаючага пакаленьня кніжка зьяўляецца першарадным фактарам уплыву на псыхалёгію падлетка. Адна добрая кніжка, адзін мастацкі напісаны твор дасьць багаты вынік у сэнсе ўплыву на псыхалёгію маладога чытача. У гэтым моц, асаблівасьць, гэта адна з уласьцівасьцяй мастацкае літаратуры наогул і ў гэтым яе вялікае выхаваўчае значэньне.

Кніжка, напісаная на тэму з дзіцячага жыцьця, або на любую тэму, але пададзеную ў цікавым і зразумелым афармленьні, напісаная так, каб яна адпавядала інтарэсам, запатрабаваньням маладога чытача, каб яна захапляла яго—вось такая кніжка будзе служыць для настаўніка-выхаваўцы рулём, зброяй, манэўруючы якімі ён можа ўжо ў поўнай меры накіроўваць, уплываць. Пры наяўнасьці адпаведнай кніжкі можна будзе гаварыць аб больш паскораным тэмпе падняцьця выхаваўчай працы ў школе.

Узьняць фармальныя веды дзяцей на поўны ўзровень, узьняць іх агульную начытанасьць (якая ў нашых вучняў зараз вельмі нізкая), прычым зрабіць гэта так, каб дасягнуць пажаданых вынікаў у гэтых асноўных галінах працы нашае школы, мы можам толькі пры наяўнасьці такога рэзэрву, як школьная бібліятэка, пры наяўнасьці дзіцячае кніжкі, пры яе дапамозе.

Сямігодка, пачатковая школа, побач з наданьнем вучню поўнага комплексу фармальных ведаў, некаторых тэхнічных навыкаў, імкнецца даць вучню навыкі ў працы над кніжкай, навучыць яго самастойна карыстацца друкаваным словам, выявіць індывідуальныя нахілы вучня, дапамагаючы яму знайсьці сябе, словам, так узброіць яго, каб ён сам па скончаньні школы мог самастойна працаваць з кніжкай, калі яму больш і не давядзецца навучацца ў сьценах тае ці іншае навучальнае ўстановы, каб ён сам мог папаўняць свае веды праз самаадукацыю.

Ї гэта вельмі важнае заданьне навучыць карыстацца кніжкаю, якое высоўваецца самім жыцьцём, школа ня можа практычна ажыцьцявіць, бо ня мае пад рукамі патрэбнага, ня мае галоўнага дапаможніка ў гэтай справе, ня мае адпаведнае кніжкі.

У тых умовах, у якіх школа знаходзіцца сёньня, мы фактычна ня можам казаць аб поўнай беларусізацыі школы. Настаўнік беларускае школы пастаўлен у надзвычайна цяжкае становішча. Ён змушан або вузка прытрымлівацца падручніка, абмяжоўвацца толькі падручнікам, або карыстаць кніжкі, напісаныя на іншай мове, часьцей усяго на расейскай. Што выбраць? Ці абмежавацца толькі падручнікам, і гэтым самым уводзіць у выкладаньне элемэнты схаластыкі, сухасьці, ці выбраць другі шлях—даваць дзецям літаратуру, але на чужой мове? У кожным выпадку канчаткова вырашыць тут асабісты густ настаўніка. Але ясна, што ніводзін з гэтых шляхоў ня вытрымлівае ніякай крытыкі з боку падагагічнасьці.

Што рабілася да гэтага часу па галіне стварэньня дзіцячай кніжкі? Амаль што нічога. Гады два таму назад пры Наркамасьвеце была арганізавана камісія па перагляду і рэцэнзаваньню дзіцячае кніжкі. Камісія ня мела ніякага пляну ў працы, уся праца насіла выпадковы характар. Камісія паварушылася крыху і замерла. Вось зараз цэлы год, як яна адпачывае.

Імкнецца задаволіць попыт на дзіцячую кніжку Бел. Дзярж. Выдавецтва. Яно зьбірае навакол сябе людзей, якія цікавяцца пытаньнямі дзіцячае кніжкі, мяркуецца з імі. Патроху сёе-тое друкуе. Але стварэньне дзіцячае кніжкі зьвязана з цэлым шэрагам мэтадычных і падагагічных пытаньняў, якія разьвязаць адно Дзярж. Выдавецтва ня можа. Здавалася-б, што кіраваць выданьнем дзіцячае літаратуры павінен НКАсьветы, а Дзярж. Выдавецтва мусіць быць тэхнічным выканаўцай яго заданьняў. А ў нас наадварот—Дзярж. Выдавецтва выяўляе большую ініцыятыву за НКАсьветы. Пеяк саматугам выдае дзіцячыя кніжкі і выдавецтва «Чырвонай Зьмены».

Уся справа выданьня дзіцячае кніжкі носіць у нас выпадковы характар. Няма ніякай плянавасьці, усё робіцца па натхненьню.

Зусім зразумела, што стварэньне беларускай дзіцячай літаратуры, справа не аднаго году. Дзіцячая літаратура будзе разьвівацца, узбагачаючыся ў залежнасьці ад разьвіцьця беларускае мастацкае літаратуры наогул. Але справу пачынаць трэба.

Дзеля правільнага вырашэньня пытаньня аб стварэньні беларускае дзіцячае літаратуры трэба ўтварыць пры мэтадкоме спэцыяльны орган: сэкцыю, пад'аддзел. Прыцягнуць да працы лепшыя падагагічныя і літаратурныя сілы і даручыць ім гэту працу.

Праца гэтай сэкцыі ці камісіі мусіць складацца з наступнага:

1. Каб задаволіць востры голад у дзіцячай кніжцы, сэкцыя ці камісія мусіць па опісах бібліятэк, каталёгах, рэкамэндацыйных лістох выбраць усё лепшае, што ёсьць у сусьветнай дзіцячай літаратуры і ўсё гэта ў плянавым парадку перакласьці на беларускую мову.

2. Распачаць працу па вылучэньню сваіх дзіцячых пісьменьнікаў. Трэба выклікаць зацікаўленасьць сярод нашых пісьменьнікаў, асабліва сярод маладых, да апрацоўкі дзіцячых тэм. Трэба заказваць пісьменьнікам творы на тэмы з жыцьця дзяцей. Трэба ўцягнуць у гэту справу і шырокія масы настаўніцтва. Тут вельмі важна, каб настаўнікі ня толькі высоўвалі свае прапановы ў гэтай справе, але каб і самі пісалі і прысылалі свае творы.

3. Для рэгуляваньня сваёй працы, сэкцыя мусіць зьвязацца з дзіцячым аддзелам якой-небудзь бібліятэкі. Яна мусіць у сваёй працы вельмі чула прыслухоўвацца да ацэнкі кніжкі маладым чытачом і яго густам кіравацца пры адборы і ацэнцы кніжкі. Водгук маладога чытача—гэта адзін з галоўных крытэрыяў у працы.

4. Трэба зьбіраць рэцэнзіі, крытычныя матэр'ялы, рэклямаваць, складаць рэкамэндацыйныя лісты—адным словам, дапамагаць Дзярж. Выдавецтву прасоўваць дзіцячую кніжку. І гэту ролю мусіць узяць на сябе сэкцыя. Гэта патрэбна таму, што нават тыя дзіцячыя кніжкі, якія зараз выходзяць з друку, мала вядомы насельніцтву.

Мы спыняемся на дзіцячай літаратуры толькі школьнага ўзросту, абыходзячы зусім дашкольнікаў. Гэта мы робім ня з тых меркаваньняў, што дашкольнікам дзіцячая кніжка не патрэбна, а таму, што першарадную патрэбу ў кніжцы мае школа. І першы стрэл у гэтай справе трэба накіраваць на забясьпечаньне дзіцячай кніжкай нашых школ.

**Алеся Александровіч.**

# ГРАФ.

(Эскіз).

Настаўнік Сымон—чалавек, які ўсё ведае. Таму ў яго вачох упэўненасьць, голас роўны і цьвёрды, а рукі спакойныя.

Хлопчык Міхась—чалавек, які ўсё хоча ведаць. Яго вочы блішчаць вечным запытаньнем: „Што? Як? Чаму?“ Голас—зычны, абрывісты, няпэўны. Рухі неспакойныя.

Міхасю ўсяго дзесяць год. Колькі часу таму назад яго называлі «Дзіцём Кастрычніка», бо ён нарадзіўся якраз у час кастрычнікавага перавароту. З тых пор, як Міхась пачаў хадзіць у школу, яго перасталі клікаць гэтай мянюшкай, бо яго равесьнікаў было там многа. Калі ўсіх школьнікаўназавеш «дзяцьмі Кастрычніка», тады і розьніцы між імі ня будзе.

І дзеці прыдумалі іншыя мянюшкі адзін аднаму.

Міхася называлі „графам“.

Чаму „графам“?

Бо яго бацькі жылі на графскай зямлі вярсты тры ад школы.

Настаўнік забараніў называць адзін аднаго мянюшкамі.

«Крывы нос», «Галапуп», «Воўк», «Качарга», «Кульгавы», «Матрос»,—і іншыя школьнікі нават любілі свае мянюшкі, адклікаліся на іх і ня крыўдзіліся. Ім у гэтых мянюшках падабалася тое, што яны—не такія звычайныя, як, напрыклад, Янка, Арцём, Юрка, Язэп, якіх у кожнай вёсцы так многа, што хоць ты з іх гаць гаці!

Дзеці трафарэтаў ня любілі.

Адзін „Граф“ крыўдзіўся на графа. Міхась часта скардзіўся настаўніку на дзяцей, якія яго „графам“ называюць.

Настаўнік кожны раз тлумачыў дзецям, што крыўдзіць таварыша—вельмі брыдкі ўчынак.

Але нічога не памагала: Міхась застаўся «графам».

За «графа» паміж Міхасём і яго таварышамі пачаліся бойкі, бо тады, як пасьля тлумачэньняў настаўніка адзін аднаго ўжо называлі звычайнымі імёнамі, Міхася ўвесь час дражнілі «графам». Толькі адна гэта мянюшка жыла ў школе, нібы нявідочны графскі гэрб над Міхасёвай галавой.

«Графа» не маглі забыць толькі таму, што Міхась крыўдзіўся за гэта.

— Граф! Граф! Граф—дражнілі яго таварышы.

Пасьля аднэй гарачай бойкі за „графа“, калі ў многіх насы былі падрапаны да крыві, настаўнік Сымон—чалавек, які ўсё ведае,—запытаўся ў дзяцей:

— Чаму вы Міхася «графам» называеце?

— Бо на графскай зямлі жыве!—адказалі хорам некалькі хлапчукоў.

— А што такое граф?

— Ня ведаем.

— Дык чаму называеце Міхася графам?

— Ён жыве на графскай зямлі.

— Чаму зямля графская?

— Так усе кажуць...

— Скажэце, таварыш настаўнік, што гэта такое граф?—запытаўся «Граф», больш за іншых зацікаўлены гэтым словам.

Дзеці зарагаталі.

— «Граф» хоча ведаць, хто ён такі!—закрычалі ўсе ў вялікай радасьці.

Настаўнік азірнуў спакойным вокам сваю „аўдыторыю“.

«Мае вучні яшчэ вельмі слабы ў палітграмаце»... падумаў ён.

— Я вам, дзеці, растлумачу, што такое «граф»!—сказаў ён у голас.

Настаўнік пры гэтым задумаўся: графоў ён сам ніколі ў вочы ня бачыў. Да Кастрычніка яму самаму было нешта дзесяць год з гакам. Ён усьміхнуўся. Яму было прыемна, што ўсё дакастрычнікавае здаецца далёкім мінулым, чуць не легендай. Гэтыя нямногія гады пасьля рэвалюцыі адсунулі ў забыцьцё стагодзьдзі...

Настаўнік яшчэ раз зірнуў на сваю аўдыторыю. Некалькі дзесяткаў пар бліскучых дзіцячых вачэй глядзелі на яго з напружанай зацікаўленасьцю.

— Граф,—пачаў настаўнік,—гэта надзвычайна багаты чалавек, які меў многа зямлі, палацаў; людзі ўсе, вось, напрыклад, вашы бацькі і дзяды, былі яго нявольнікамі. Ён імі ўладаў як быдлам. Кастрычнікавая рэвалюцыя выгнала адгэтуль графоў.

Сам „граф“ вельмі ўважліва прыслухоўваўся да тлумачэньня настаўніка.

— Дык у нас сапраўды калісьці графы былі?—запытаўся ён.

— А як-жа, былі, як мы вось з табою! Калі хочаце, дзеці, яшчэ больш ўпэўніцца ў гэтым, дык няхай кожны з вас запытаецца сваіх бацькоў і дзядоў. Вашы бацькі парабкамі працавалі на графскай зямлі. Некаторыя са старых дзядоў яшчэ памятаюць той час, калі яны былі нявольнікамі ў графоў і паноў.

Настаўнік быў упэўнены, што такім чынам, калі дзеці пачуюць ад сваіх бацькоў і дзядоў апавяданьні аб тым, як яны жылі да Кастрычніка, як на сваіх плячох пераносілі гэта графства, тады яшчэ лепш зразумеюць яго тлумачэньне аб графох.

— Усе гэтыя апавяданьні вы, дзеці, запішэце і пакажаце мне!—кончыў настаўнік.

У «графа» пры гэтых словах твар стаў задуманы, вочы—сталыя. Ён сказаў настаўніку:

— Вы-ж казалі, што дзедавым байкам ня можна верыць. Дзед мне многа пра бога расказвае, але я ня веру яму.

— Бога дзед твой ніколі ня бачыў, а графа сваімі вачыма бачыў, а можа нават гаварыў з ім,—адказаў настаўнік.—Твой дзед жыве на графскай зямлі цяпер гаспадаром, а да рэвалюцыі быў тут парабкам у графа. Раней граф быў гаспадаром.

— Калі так, дык можа і бог быў, бо ў дзедаўскім куточку ў хаце вісіць божы партрэт,—не супакоіўся «граф» і недаверліва зірнуў на настаўніка.

— Божы партрэт прыдуманы людзьмі,—сказаў з усьмешкаю настаўнік.

— Тады можа і партрэт Леніна ў кніжцы таксама людзьмі прыдуманы...—не адступаўся «граф».

Тут зарагаталі ўсе дзеці.

— Дурны ты «граф»!—крыкнулі хорам «крывы нос», «галапуп», „воўк“, „матрос“ і іншыя.

Яны ўсе шчыра рагаталі над разважаньнямі «графа».

— Ціха, дзеці, ня сьмейцеся з яго і не называйце Міхася „графам“!—строга сказаў настаўнік.—Ленін быў чалавекам. Яго людзі бачылі. Ён быў кіраўніком рэвалюцыі. Ён дамагаўся лепшага жыцьця для працоўных. Ён многа кніг напісаў. Яго, памёршага, можна яшчэ і цяпер бачыць у Маскве ў маўзалеі.

Настаўнік доўга гаварыў пра жыцьцё і працу Леніна.

А «граф» недаверліва глядзеў на настаўніка.

— Каму тут верыць?—думаў ён:—то настаўнік кажа, што ў байкі верыць нельга, а во сам байкі расказвае.

Пра некалькі дзён „граф“ прынёс настаўніку сшытак, увесь сьпісаны «графскімі» дзіцячымі гразмолямі.

У „графа“ быў яшчэ прадзед—старэнькі згорблены чалавечак, якому стукнула ўжо сто гадоў. Дзядок добра памятае прыгон. Заўсёты розныя байкі расказвае, але ніхто яго слухаць ня хоча.

Дзядок вельмі абрадваўся, калі праўнук папрасіў яго пра графа раска-

# Студэнцкая грамадзкасьць---самапасам.

Да гэтага часу ў працы студэнцкіх арганізацый, праз якія павінна ісьці культурна-выхаваўчая праца новых спэцыялістых, пануе казёншчына, праца дзеля справаздачы, павярхоўнасьць і таму гэта праца ў значнай меры адарвана ад масы студэнцтва. Калі добра пазнаёміцца з жыцьцём навучальнай установы, дык яскрава можна бачыць, што мора сходаў, нарадаў, пасяджэньняў зрываюць усякую працу; студэнтаў рэжа гарачка кампаній, якія праводзяцца адна за другой. Зараз, напрыклад, у сувязі з пачаткам навуч. году, кожны студэнт у працягу аднаго месяцу павінен быў прысутнічаць ня менш чым на 9-10 сходах, а калі ён партыец ці камсамолец, дык колькасьць абавязковых для яго сходаў павялічваецца амаль што ў два разы.

Разам з тым яшчэ ня зьнішчана адміністраваньне стударганізацый, яны кіруюць вытворчай практыкай, ведаюць справамі прыёму ў ВНУ, выключэньнем студэнтаў, пераводам з курсу на курс, разьмеркаваньнем стыпэндый, пасылкай на курорты і г. д.

Старшыня прафкому і ў стыпэндыяльнай, і ў платнай, і ў пераводнай, і ў курортнай, і ў іншых камісіях, а зьвярнуцца ў некаторых выпадках за абаронай няма да каго. Адсюль частае нездаволеньне сваім прадстаўніком, бо ён губляе таварыскую сувязь са студэнцтвам.

У парыве адміністраваньня заціраецца галоўнейшая задача студ. арганізацый. Палітпрафадукацыя сярод студэнцтва пастаўлена з рук вон дрэнна, яна разгортваецца перад зімовымі вакацыямі і згортваецца пасьля іх, у выніку—лятась у БДУ у БСГА і інш. ня скончыў працу ніводзін гурток. У гэтым годзе, ня гледзячы на тое, што хутка пачынаюцца вакацыі і канчаецца першае, найбольш карыснае для працы паўгодзьдзе,—справа палітпрафадукацыі яшчэ не наладжана. Набыцьцё марксысцка-ленінскіх ведаў, асноўнае, што неабходна як мэтад і кіраўнак чырвонаму спэцыялісту, пастаўлена дрэнна, калі ня лічыць таго курсаў, што вывучаецца па навучальным пляне, якім, дарэчы, ахоплена далёка ня ўсё студэнцтва. Разам з гэтым ёсьць шмат выпадкаў, калі і выкладаньне марксысцка-ленінскіх дысцыплін знаходзіцца ў ненадзейных руках.

Навукова-тэхнічныя гурткі, як база дзеля падвышэньня кваліфікацыі, вяла арганізуюцца, працуюць бяссыстэмна, у большасьці бяз сродкаў, без памяшканьня, без кіраўніцтва.

Пытаньні студэнцкага быту таксама змушаюць жадаць шмат лепшага, але ў гэтым кірунку далей дыспутаў справа пакуль што не пашла.

Самакрытыка ў навучальных установах належна не разгарнулася. Саматужніцтва, лякіраваньне, крытыка не далей дэканатаўскага парогу і прафкомаўскай вывескі—вось што характэрна для насьценгазэт, бо ў рэдкалегіях працуюць слабыя працаўнікі, раскрыць старшыню прафкома, ці іншага кіраўніка арганізацыі гэта ім не па сілах. Насьценгазэты не рэагіруюць на найбольш балючыя пытаньні жыцьця студэнцтва,--яны пішуць пра непарадкі ў буфэце і іншыя драбніцы.

Усякая ініцыятыва студэнцтва па галіне самакрытыкі няшчадна душыцца. Напрыклад, у магілеўскім мэдтэхнікуме ў насьценгазэце былі зьмешчаны два артыкулы, якія малявалі недахопы акадэмічнага і грамадзкага жыцьця; іх нельга нават назваць крытыкай, але, ня гледзячы на гэта, зараз-жа было склікана пазачарговае пасяджэньне бюро; рэдактару газэты абвясьцілі выгавар, допісы вырвалі з газэты. Вось і другі факт: на агульна-гарадзкой канфэрэнцыі студэнцтва г. Віцебску рэдактар аднэй з насьценгазэт студэнцтва Віцебску апавядае наступнае. „Паспрабуйце,—кажа ён,—крытыкаваць касу ўзаемадапамогі, дык пазыкі не атрымаеце, а калі зачапіць стыпэндыяльную камісію, дык аб стыпэндыі толькі марыць прыдзецца...»

Такое становішча далей цягнуцца ня можа. Студэнцкім арганізацыям трэба канчаткова адмовіцца ад адміністраваньня, вывесьці са складу розных камісій старшынь прафкомаў, патрэбен новы жывы струмень, новыя мэтады працы.

Студэнцкія арганізацыі, і да гэтага часу ня справіліся з вялікай задачай культурна-выхаваўчай працы. Яны ня справіліся з гэтай задачай таму, што прафсаюзы не кіравалі і не дапамаглі ў належнай меры стударганізацыям. Не дапамаглі ў гэтай працы і праўленьні навучальных устаноў, а іншы раз нават перашкаджалі, аб чым мы можам прывесьці шэраг фактаў. Праўленьні навучальных устаноў ня лічаць выхаваўчую справу сваёй справай, іх справа—спэцыяльнасьць.

**Т. Г.**

---

заць. Дзед многа і цікава апавядаў, а „граф“ запісваў.

— Пішы, унучак, запісвай гэта ўсё на памятку,—казаў дзядок. Ты ніколі таго не пабачыш, чаго я бачыў. Ты ніколі пакутваць так ня будзеш, як я пакутваў. У канцы гутаркі дзядок дадаў:

— І граф, дзеткі, ёсьць, і бог ёсьць.

Граф заграніцу ўцёк, а бог ёсьць і там і тут. Бо каб ня было бога,—ня было-б цэркваў, ня было б папоў, ня было-б малітваў, ня было-б сьвятых абразоў...

У пацьвярджэньне сваіх слоў дзядок, які вечна на печы сядзеў, зьняў кашулю і паказаў „графу“ свае худыя зжаўцелыя плечы.

— Што бачыш, дзеткі?—запытаўся дзядок.

— Плечы бачу!—адказаў «граф».

— Прыглядзься добра, у цябе вочкі маладзенькія..,

„Граф“ прыглядзеўся.

— Больш нічога ня бачу...

— Памацай рукамі!

«Граф» памацаў рукамі худыя плечы дзеда.

— Ну што?—запытаўся дзед.

— Шурпатыя плечы, парэзаныя...

— Гэта, дзеткі, ад бізуноў!—тлумачыў дзядок.—Білі панскія каты за непаслухмянства, білі царскія сабакі за бога. Я вуніятам быў...

«Граф», падаўшы настаўніку свой сшытак з дзедаўскімі байкамі, глыбока зірнуў у вочы настаўніка і працадзіў праз зубы:

— Я цяпер ведаю...

— А што ведаеш?

— І бог ёсьць... Я бачыў пасьцёбаныя плечы дзеда. Ён казаў, што гэта яго за бога білі... Бог, мабыць, таксама заграніцу ўцёк разам з графам.

— Дзеда білі,—тлумачыў настаўнік,—каб верыў у царскага бога.

Настаўнік доўга гаварыў „графу“ аб рэлігіі. Ён адчуваў, што «граф» не разумее, што ён сам ня ўмее добра вытлумачыць усё гэта хлопчыку.

— Трэба больш налегчы на вывучэньне зьявішч прыроды,—меркаваў настаўнік,—і зусім не ўспамінаць пра бога. Таксама небясьпечная штука загадваць дзецям запісваць ад старых людзей байкі і песьні, як гэта робяць у многіх школах. Такім запісваньнем няхай лепш сталыя людзі займаюцца.

„Граф“ недаверліва пазіраў на настаўніка.

Настаўнік—чалавек, які ўсё павінен ведаць,—думаў „граф“.

«Граф»—чалавек, які ўсё хоча ведаць,—думаў настаўнік.

**З. БЯДУЛЯ.**

# ДУМКІ І ПРАПАНОВЫ НАСТАЎНІКАЎ

## Пытаньні пэдагагічныя—на разгляд пэдагагічнай рады.

Статут адзінае працоўнае школы прадугледжвае стварэньне ў школе двух роўналежна існуючых устаноў—школьнае і пэдагагічнае радаў. На працягу ўсяго часу, праз які наша школа кіруецца гэтым статутам, нідзе ня прыходзілася чуць ці чытаць, як разьмежаваць гэтыя дзьве ўстановы, як падзяліць усе пытаньні школьнага жыцьця, каб ведаць, якія датычаць школьнай рады, а якія з іх падпарадкаваны толькі пэдагагічнай радзе.

У нашым статуце зазначаны амаль што ўсе пытаньні, якія датычацца выключна школьнай рады. Напрыклад, абгаварэньне плянаў працы, справаздачы настаўнікаў аб іх працы,—усё гэта датычыцца школьнай рады, ну, ужо зразумела, што і дысцыпліна ў школе, посьпехі вучняў тым больш падпарадкуюцца ёй. Куды не павярніся, усюды статут абапіраецца на школьную раду, а пэдагагічная рада існуе толькі на паперы, ёй—ніякіх абавязкаў. Абмінаюць школьную раду хіба толькі пытаньні падвышэньня кваліфікацыі настаўнікаў ды хіба пытаньні ўзаемаадносін калектыву школы.

Працу па падвышэньню кваліфікацыі вядуць пэдгурткі, якія ахапляюць настаўнікаў некалькіх школ, значыць і тая доля працы, якую пэдрадзе тут адмерылі, сама па сабе адпадае. Такім чынам пэдагагічнай радзе ў школе няма чаго рабіць.

Школьная рада ў нашых сямігодках завалена працай, і добрую палову ўсіх тых пытаньняў, якія на ёй разглядаюцца, дзеля карысьці справы належыць перадаць на разгляд пэдагагічнай рады.

Возьмем, напрыклад, плян працы настаўніка тэй ці іншай групы, або дысцыпліну. Практыка паказала, што ўдзел вучняў у гэтай справе зусім вузкі, абмежаваны, бо справа больш датычыцца мэтадаў і спосабаў, якімі настаўнік будзе карыстацца пры выкладаньні. Што тычыцца абходу матар'ялу, дык ён укладзен у праграму, і ў рэдкіх выпадках прыходзіцца рабіць ад яе ўхіленьні. У гэтых справах вучні ўдзелу ня прымаюць, бацькі таксама. Значыць, гэта пытаньне без граха можна перанесьці на разгляд пэдагагічнай рады.

З іншых пытаньняў у працы школьнай рады цэнтральнае месца займае на працягу году справаздача настаўнікаў аб тым, што і як імі прапрацоўвалася на працягу году. Зноў такі мы тут сустракаемся амаль што выключна з пэдагагічнымі пытаньнямі, якія таксама для прадстаўнікоў вучняў мала зразумелыя. Па гэтых пытаньнях у іх актыўнасьці няма. Пакінуць пасяджэньне не рашаюцца і заставацца няма дзеля чаго, а самае галоўнае—дарма траціць 3-4 гадзіны. Іх вучні абралі справу рабіць, а тут слухай, які мэтад лепшы.

У гэтай справе ёсьць і яшчэ адзін адмоўны бок. Возьмем да прыкладу справаздачу настаўніка. Часта з самае справаздачы выяўляюцца адмоўныя бакі, якія дапушчаны, скажам, з прычыны малога вопыту настаўніка, або па непрадбачнасьці, а бываюць і проста памылкі. Вельмі цяжка вырашаць гэтыя пытаньні ў прысутнасьці вучняў. Мы добра ведаем пэдагагічныя прынцыпы, што вучні павінны бачыць, як мы выпраўляем памылкі, але ўсё-ж-ткі—дзеці, як дзеці. У іх узьнікае разуменьне, што гэты настаўнік нічога ня варты, і такім парадкам школьная рада падарве аўтарытэт настаўніка. Вось таму настаўнікі заўсёды выказваюцца павярхоўна, і шмат пытаньняў арганізацыйнай працы групы, памылак у працы, застаецца не абмеркаванымі.

Выходзячы з такіх меркаваньняў, пытаньні пэдагагічнага характару, як справаздача настаўнікаў аб працы ў школе, разгляд плянаў працы і наогул цэлы шэраг падобных пытаньняў лепш было-б перанесьці на разгляд пэдагагічнай рады. А для школьнай рады яшчэ знойдзецца нямала пытаньняў, якія трэба ўпарадкаваць за год.

Я. Ж.

Мазыршчына.

## Як забясьпечыць школы падручнікамі і прыладамі.

Справа забясьпечаньня вясковых школ падручнікамі ў нас пастаўлена надзвычай дрэнна. Па бюджэту штогод адпускаецца на падручнікі і прылады на адзін настаўніцкі кamплект 40 рублёў. Сума малая, але калі скарыстаць яе эканомна, усёж-ткі можна сяк-так забясьпечыць школу. Пры належным доглядзе, адзін падручнік у трэцяй і чацьвертай групе можа абслужыць трох-чатырох вучняў, і яго хопіць на тры-чатыры зімы; у другой і першай групе—на год-два. Дабаўляючы кожны год, школа можа быць забясьпечана падручнікамі поўнасьцю і яшчэ частку сродкаў выдзяліць на пісьмовыя прылады або на наочныя падсобнікі. Але гэтага можна дасягнуць толькі пры ўмелым скарыстаньні сродкаў.

У сучасны момант у нас гэта справа вырашаецца так:

Сродкі на вучэбную частку цэнтралізуюцца ў акруговым Інспэктарыяце Народнае Асьветы, які і закупае, падручнікі і прылады сам, і закупае якія яму падабаюцца. Райінспэктары разьмяркоўваюць іх па школах наўгад, у выніку—у некаторых школах адных падручнікаў хоць прадавай, а другіх няма зусім.

На мой погляд, справу забясьпечаньня школ падручнікамі можна ўпарадкаваць такім чынам.

Райінспэктар дасылае школам сьпісы рэкамэндуемых падручнікаў і дапаможнікаў з паказаньнем іх кошту і паведамляе—колькі грошы вызначана на вучэбную частку для школы. Настаўнік, атрымаўшы каталёг рэкамэндуемых падручнікаў і паведамленьне аб колькасьці вызначаных для яго школы сродкаў на вучэбную частку, а таксама выходзячы з разьліку падручнікаў, якія ў яго школе ўжо ёсьць, складае заказ на неабходныя падручнікі, прылады і дапаможнікі, укладаючыся ў вызначаную суму, і накіроўвае заказ райінспэктару. Тым-жа школам, якія знаходзяцца блізка ад аддзяленьняў Дзяржаўнага Выдавецтва, можна нават выдаць авансы на закупку, калі яны не вымагаюць камандыровачных на паездкі.

Пры такім спосабе школы будуць мець тыя падручнікі, якія ім патрэбны.

В. Л-вонік.

*Мазыршчына.*

## Калектыўная праца будзе мець посьпех.

Ніводзін настаўнік, з якой-бы асьветай і здольнасьцямі ён ня быў, толькі сваімі ўласнымі сіламі нічога ня зробіць у напрамку добрай дэталёвай распрацоўкі комплексу, бо на гэта трэба затраціць шмат часу, а ён у нас усіх вельмі абмяжован. Дзеля эканоміі часу і сіл трэба распрацоўку комплексаў зрабіць працай абавязковай для ўсіх настаўнікаў данага сельсавета і раёну.

На пасяджэньнях пэдрады трэба высунуць наступнага зьместу самаадукацыйныя тэмы:

1. Вывучыць дасканала праграму школы па сэзонах і гадох навучаньня і магчымасьці прыстасаваньня яе да агульнага разьвіцьця насельніцтва і вучняў, радыусу данай школы.

2. Абгаварыць галоўны кірунак працы школ данага сельсавету, прыстасоўваючыся да патрэб вытворчасьці сельсавету; зразумела, неабходна ўвязаць гэты кірунак з плянавасьцю сельсавету, раёну і акругі.

3. Абгаварыць мэтадычна-пэдагагічную ўстаноўку ў дасьледчай працы кожнага настаўніка па забіраньню мясцовага матар'ялу дзеля запаўненьня комплексу.

4. Разьмеркаваць працу сярод калектыву настаўнікаў так, каб у азначаны час азначаная праца была кожным настаўнікам выканана і дала вядомы эфэкт у сэнсе запаўненьня комплексаў, хоць-бы І-га году навучаньня, ці нават аднаго якога комплексу з таго ці іншага году навучаньня.

5. Увесь сабраны і вывучаны матар'ял трэба апрацаваць, абмеркаваць і рэдагаваць па пэдрадах дзеля таго, каб ім маглі карыстацца ў наступны год школы сельсавету.

Гэты прыкладны напрамак працы без падтрыманьня Райана і раймэтбюро жыцьцём адціскаецца на вольны час і так з году ў год і застаецца незакранутым Райана і раймэтбюро трэба будзе паставіць на абгаварэньне гэта пытаньне як на спэцыяльных настаўніцкіх (а не наогул асьветніцкіх) вытворчых парадах (якія, да слова сказаць, трэба было-б наладзіць па раёнах), так і на спэцыяльна прысьвечаных пасяджэньнях пэдрад пры сельсаветах.

Мала, разумеецца, паставіць пытаньне на абгаварэньне,—неабходна яго самім раней усебакова разабраць, кароценька падсумаваць плянавасьць працы ўсіх устаноў раёну і, у якасьці інфармацыі, даць пэдрадам, якія, ня блукаючыся ў пацёмках, яскрава ўвязалі-б працу сельсаветаў з плянамі раённых устаноў.

Побач з гэтым, неабходна заснаваць асобны фонд пры райана на выданьне ў патрэбнай колькасьці дэталёва распрацаваных камплексаў таго ці іншага сельсавету, каб школы маглі імі карыстацца.

Акруговае мэтбюро павінна ўвязаць гэтыя камплексы з плянавасьцю працы акруговых устаноў.

Апрача гэтага, акруговы інспэктарыят павінен узьняць перад мэтадалёгічным камітэтам НКА пытаньне, аб выданьні асобнага справачніка, дапамагаючага настаўніцтву як у падняцьці кваліфікацыі, так і ў падняцьці вытворчасьці школ, з такім разрахункам, каб гэты справачнік быў не агульны, а прыстасоўваўся для кожнага раёну.

І. Грынкевіч.

*Амсьціслаў.*

